# Голас Радзімы

№ 5 (2147)
1 лютага 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.











«КРЭДА — ВЕРУ». Такую назву аўтары далі спектаклю Мінскага тэатра моды, прысвечанаму 500-годдзю з дня нараджэння вялікага беларускага асветніка Францыска Скарыны. У год, абвешчаны ЮНЕСКА годам Скарыны, нават на пачатку яго мы паспелі ўжо прывыкнуць да розных мерапрыемстваў, так ці інакш звязаных са славутым імем, але... калекцыя адзення! А чаму не! Хіба не заслугоўвае ўвагі спроба сродкамі касцюма перанесціся на пяць стагоддзяў у мінулае, ажывіць гравюры першадрукара!

...Гасне святло, і пад гукі духоўнай музыкі на сцэне з'яўляюцца постаці ў чорным. Павольныя рухі, свечкі ў руках. Святло і чорныя цені, паўтонаў няма. Якім жа кантрастам, якім святам колераў адкрываецца вачам гледачоў велічнае шэсце астатніх «гасцей з мінулага»! Вытанчаныя дамы і высакародныя кавалеры, рознакаляровыя блазны і нават пунсовы кардынал. Нібыта на нейкі дзіўны, вечны, непадуладны часу баль сабраліся яны. Залатая і сярэбраная парча, чыстыя яркія фарбы — які мастак працаваў над гэтым габеленам!

А мастак — ён тут, часам адыходзіць у цень, каб даць магчымасць гледачам палюбавацца на прыгажосць старажытных танцаў, і, здаецца, сам глядзіць з цемры здзіўленымі вачамі.
Галоўнае пачуццё, якое ўзнікае пасля фінальнай сцэны, — удзячнасць. Удзячнасць аўтарам цудоўнай калекцыі, калектыву рэспубліканскай лабараторыі адзення і абутку пад кіраўніцтвам Іны Булгакавай, рэжысёрам спектакля — народнаму артысту БССР Юрыю Траяну і Аляксандру Варламаву (вось адкуль высокапрафесійны ўзровень харэаграфіі!) і, вядома, выканаўцам — Ігару Анцюху, Людміле Барташэвіч, Алегу Барысенку, Алене Грыбко, іншым, хто падарыў гледачу радасць сапраўднага свята.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

КАМУ ПАДПАРАДКОЎВАЕЦЦА ПРЭСА

# ХВАЛЯ АЧЫШЧЭННЯ ЦІ ХВАЛЯ РАЗБУРЭННЯ?

**Прэсу, наогул сродкі масавай інфармацыі, сёння з поўным правам можна аднесці да так званых «герояў дня». Бадай, галоўныя поспехі перабудовы мы звязваем з пашырэннем публічнасці, дэмакратыі, плюралізму поглядаў. І тут адну з найважнейшых функцый выконваюць газеты, часопісы, радыё і тэлебачанне. У значнай ступені актывізацыя іх работы выклікала тую хвалю інфармацыі, звестак, неардынарных думак, якія літаральна на вачах змянілі ўсю грамадскую атмасферу, свядомасць народа. Яшчэ нядаўна забароненае, крамольнае зараз адкрыта абмяркоўваецца на друкаваных старонках, з экранаў тэлевізараў. Некаторыя журналісты па папулярнасці дагналі вядомых палітычных і грамадскіх лідэраў, кіназорак. Усё гэта прыкметы нашага вірлівага часу. Як і тое, што прэса, сродкі масавай інфармацыі пэўнымі коламі нярэдка выстаўляюцца ў якасці дэструктыўнага пачатку, абвінавачваюцца ў падрыве асноў, «падбухторванні» або і проста ва ўсіх смяротных грахах.**

**Дык як жа трэба ацэньваць ролю сродкаў масавай інфармацыі ў сучасных працэсах! Якую хвалю яны ўсё-такі нараджаюць: хвалю разбурэння ці хвалю ачышчэння! З гэтага пытання пачалася наша гутарка з новым рэдактарам (назначаны на пасаду літаральна некалькі месяцаў назад) адной з цэнтральных беларускіх газет—«Советская Белоруссия» Зіновіем ПРЫГОДЗІЧАМ:**

— Так, сродкі масавай інфармацыі і, у прыватнасці, прэса, якая асабіста мне бліжэй, змяніліся кардынальна, набылі зусім новую якасць. Магчыма, для мяне гэта больш, чым для каго, заўважна: я вярнуўся ў газету пасля 12-гадовага перарыву. Да 1977-га, на працягу адзінаццаці гадоў, працаваў у другім буйным беларускім выданні — «Звяздзе».

Калі летась прыйшоў у «Советскую Белоруссию», адразу ж уразіла тая раскаванасць, з якой працуюць журналісты. Хаця, калі параўноўваць нас, скажам, з маскоўскімі калегамі, то беларускія газетчыкі пакуль не дасягнулі іх узроўню ў аператыўнасці, адборы, глыбіні асэнсавання, непрадузятасці выкладання фактаў. Але ў параўнанні з ранейшым зрухі ёсць, і немалыя.

Зараз для журналістаў няма забароненых тэм. Усё пытанне ў тым, як пісаць. Наша газета — орган ЦК Кампартыі Беларусі. І гэта не можа не накладваць на яе арыентацыю пэўнага адбітку. А, напрыклад, у штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», органа Саюза пісьменнікаў Беларусі, дыяпазон можа быць шырэйшы, чым у нас. Мы ж павінны лічыцца з накіраванасцю выдання. Мне здаецца, гэта лагічна: ні ў адной краіне не можа партыйны орган друкаваць нападкі на сваю партыю яе праціўнікаў. Трэба ўлічыць, што газета і арганізацыйна падпарадкавана парткамітэту. І пэўныя матэрыялы проста павінна друкаваць. Але рэдакцыя мае права выказаць свае адносіны да тэмы і пункту гледжання аўтара. Мы так нядаўна і зрабілі, калі былі не згодныя з вызначанай пазіцыяй.

*— Такім чынам, газета не можа быць усёеднай?*

— Так, свая пазіцыя газеце проста неабходна.

*— Ну, а каму не падабаецца адно выданне, можна яго не чытаць, узяць іншае...*

— Мы абавязаны думаць і думаць, якія пачуцці ўзніме тая ці іншая публікацыя, да чаго кліча. Калі паслужыць кансалідацыі здаровых перабудовачных сіл у грамадстве, — заўсёды знойдзе месца на старонках газеты.

Наогул, інфармацыя абавязкова павінна друкавацца дакладная. Возьмем, напрыклад, чарнобыльскую тэму. Ведаю, што людзі, якія жывуць у той зоне, кожны радок, што тычыцца радыяцыйнага становішча, уплыву радыяцыі на здароўе, не проста ўважліва чытаюць, а хіба што не праз лупу вывучаюць. Нервы ў іх напружаныя. Так, яны павінны ведаць праўду. Але паспешлівая сенсацыйнасць, якая яшчэ здараецца ў «чарнобыльскіх» публікацыях, проста недапушчальная. У сувязі з гэтым прыгадваю словы Гарбачова: «Мы зараз стаім па калена ў бензіне». І я не хачу, каб якое-небудзь няўзважанае слова журналіста стала запалкай. Кожная публікацыя павінна служыць дабру.

*— У нашай краіне склалася спецыфічная сітуацыя, калі на працягу многіх гадоў пакрыўджаныя людзі ішлі за дапамогай у газету, да карэспандэнта, як у апошнюю інстанцыю ў пошуках праўды і справядлівасці. А як рэагуюць сёння на газетныя выступленні, крытыку кіруючыя органы? Мне здаецца, апошнім часам яны «перасталі баяцца» газету.*

— Як я бачу са свайго вопыту, вы маеце рацыю, калі гаворка ідзе пра гаспадарнікаў, адміністрацыю. Сапраўды, многія з іх зараз, бывае, і не заўважаюць выступленняў журналістаў. Што тычыцца партыйных камітэтаў, то яны рэагуюць на крытыку нават вас[illegible] чым пяць-дзесяць гадоў на[illegible]

*— Але давайце зноў вернемся да адказнасці прэсы за свае выступленні. Ці не здаецца вам, што сярод сапраўды актуальных тэм трапляецца нямала натуральна спекулятыўных.*

— У нашай беларускай прэсе падобных спекуляцый не так ужо і шмат. Але трапляюцца. Я адношу да іх цэлы паток матэрыялаў пра экстрасенсаў, калдуноў, прышэльцаў, неапазнаныя лятаючыя аб'екты.

*— Мне здаецца, што «наплыў» іншапланецян мы назіраем перад пачаткам падпісных кампаній, калі на парадак дня выходзіць тыраж...*

— Сенсацыі ў здаровым сэнсе неабходны ў газеце. Але і ў іх патрабуецца дасканальнасць. У беларускай прэсе менавіта такіх публікацый — добрых сенсацый пакуль і не хапае. Магчыма, адбіваецца адсутнасць адпаведнага рэпарцёрскага вопыту, спрыту ў нашых журналістаў.

*— Такім чынам, за якую ж вы газету: інфармацыйную ці аналітычную?*

— Выйграе той, хто навучыцца спалучаць адно з другім. Да таго ж і аналітычнасць сёння ўжо трактуецца па-іншаму. Калі раней выказваўся якісьці адзін пункт гледжання і ўсё мацавалася толькі вакол яго, то цяпер адназначнасць меркаванняў немагчымая. Ідзе калектыўны пошук ісціны. Хіба магчыма аднаму, няхай сабе і вельмі мудраму, чалавеку рассудзіць, што такое Кастрычніцкая рэвалюцыя — дабро ці зло? Дарэчы, пастаноўка пытання і ёсць праяўленне плюралізму, публічнасці. Ці яшчэ: каштоўнасці сацыялізму. Ёсць яны ці не? У нас традыцыйна пануе сапраўдная эйфарыя. Раней лічылася: пры капіталізме ўсё толькі дрэнна, пры сацыялізме — выдатна. Сёння наадварот: сацыялізм малюецца выключна чорнай фарбай, а капіталізм ружовай. Задача газеты — процістаяць тэндэнцыйнасці.

Дыскусіі трэба весці. Але яны павінны заканчвацца нейкімі канкрэтнымі вынікамі. У нашых няпростых умовах людзі імкнуцца да пэўнасці, стабільнасці.

*— Зіновій Кірылавіч, вы казалі, што пры нязгодзе можаце зрабіць ад рэдакцыі прыпіску пра гэта. Але ў такім выпадку, чаму б не прадаставіць трыбуну на такіх умовах і каму-небудзь з апанентаў спрэчных афіцыйных версій, тым больш, што сваіх друкаваных органаў у тых пакуль няма?*

— А так і атрымаецца. Пасля прыгаданага мною артыкула гісторыка Залескага, дзе ён выказваўся наконт беларускай гісторыі, мяркуем даць слова апанентам. Ужо прасіў аб гэтым іншы гісторык — Мікола Ткачоў.

Гісторыя Беларусі наогул сёння выклікае вялікую палеміку. Таму маем намер надрукаваць у газеце серыю матэрыялаў пра наша мінулае. Гэты цыкл будзе называцца «Вытокі». Пачнём ад Полацкага княства: ці было яно першай беларускай дзяржаўнасцю? Кола аўтараў пакуль яшчэ акрэсліваецца. Сярод іх будуць і афіцыйна прызнаныя асобы, і тыя, хто лічыўся амаль што крамольным, хаця на справе гэта вельмі кампетэнтныя, цікавыя спецыялісты. Маю на ўвазе Міколу Ермаловіча, Георгія Штыхава, таго ж Міколу Ткачова, які сёння з'яўляецца намеснікам старшыні рады БНФ. Пазіцыя рэдакцыі адназначная: трэба вярнуць беларускай гісторыі і Ластоўскага, і Лёсіка, іншых дзеячаў культуры.

*— Мяркуючы па газетных старонках, вы, нягледзячы на клапотную пасаду, знаходзіце час пісаць уласныя артыкулы...*

— Так, пішу. Не хочацца заставацца ў баку. А потым гэта дае маральнае права, калі здарыцца, крытыкаваць іншых.

*— На рэдакцыйных «лятучках» — сходах, дзе аналізуецца якасць падрыхтаваных і апублікаваных у газеце матэрыялаў, як ставяцца да рэдактарскіх работ?*

— Па-рознаму. Але заўсёды без усхвалення і ліслівасці. Тут лепей перакрытыкаваць, чым перахваліць.

Наогул, хаця рэдактар і ўвасабляе адзінаначалле, мне хацелася б, каб галоўным быў аўтарытэт рэдкалегіі. Таму, калі вырашаецца лёс спрэчнага матэрыялу, на ўяўныя вагі кладуцца меркаванні ўсіх членаў рэдкалегіі. І толькі тады выносіцца прысуд.

*— Зіновій Кірылавіч, дзякую вам за сустрэчу і жадаю, каб папулярнасць вашай газеты і колькасць падпісчыкаў павялічваліся.*

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

**У РЭСПУБЛІЦЫ ІДЗЕ ПЕРАДВЫБАРНАЯ КАМПАНІЯ**

# НЯЛЁГКА СТАЦЬ ДЭПУТАТАМ

У ДРУГОЙ палове студзеня ў Беларусі закончылася вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР і мясцовыя Саветы — першы этап перадвыбарнага марафона. Цяпер на працягу больш чым месяца ўсіх прэтэндэнтаў чакае нялёгкая барацьба з канкурэнтамі за галасы выбаршчыкаў. Практычна ўсюды вылучана па некалькі кандыдатур на адно дэпутацкае крэсла. У Шчучынскім раёне за мандат у Вярхоўны Савет рэспублікі будзе змагацца сем прэтэндэнтаў. Сёмым пазначаны Уладзімір Дзем'янкоў, старшыня Шчучынскага райвыканкома, гэта значыць прадстаўнік сённяшніх органаў улады.

Вылучыў старшыню калектыў цэнтральнай раённай бальніцы. Чым жа ён так спадабаўся медыкам?

— Аўтарытэтны кіраўнік, — адзначыў на сходзе галоўны ўрач А. Майстровіч.— Па характару стрыманы, аб'ектыўны, просты ў гутарках з людзьмі.

Выступалі іншыя. І звычайна ўсе гаварылі, як кажуць, не па пісаным, а як думалі, няхай сабе часам і не вельмі гладка. Безумоўна, медыкаў «падкупіла» і тое, што пры непасрэднай дапамозе старшыні райвыканкома быў пабудаваны новы тэрапеўтычны корпус райбальніцы, а значыць думае кіраўнік не пра лічбы справаздач «наверх», а пра простых людзей «унізе», пра іх праблемы, клопаты. А гэта і ёсць той галоўны крытэрый, па якім ацэньваюць сёння выбаршчыкі прэтэндэнтаў на дэпутацтва.

Дарэчы, і астатнія шэсць сапернікаў — людзі дастойныя, кампетэнтныя, вопытныя спецыялісты. Сярод іх аграном, старшыня калгаса, інжынер, работнік міліцыі. Але ў час сходаў высветлілася, што да некаторых з іх ёсць прэтэнзіі па частцы выканання... дэпутацкіх абавязкаў. Так, раней яны ўжо выбіраліся ў райсавет, сельсаветы. «Былі заняты гаспадарчымі справамі, не было часу», — так адказвалі на заўвагі выбаршчыкаў. Але ж для работы ў парламенце рэспублікі часу спатрэбіцца значна больш. Вось і сумняваюцца выбаршчыкі ў сур'ёзнасці намераў некаторых прэтэндэнтаў.

У парламент рэспублікі ад Шчучынскага раёна павінны быць вылучаны два дэпутаты. У. Дзем'янкоў балаціруецца ў самай «цяжкай» акрузе, у якую ўключана тэрыторыя горада і буйныя пасялковыя Саветы. Першы сакратар райкома партыі В. Казяк, таксама асоба вельмі аўтарытэтная, пакуль у сваёй акрузе, у якую уваходзіць сельская мясцовасць, не мае канкурэнтаў. Сам Віктар Іванавіч у гутарцы прызнаўся, што адчувае няёмкасць ад такога манапольнага становішча. Але ж чаму так атрымалася? Можа, ніхто не асмеліўся скласці канкурэнцыю?

Так, шмат пытанняў, задач задае перадвыбарная кампанія. Не на ўсе з іх лёгка адказаць, вырашыць. Але безумоўна, што яна выклікае абуджэнне грамадскай актыўнасці і ўжо ў гэтым яе вялікая каштоўнасць. У той жа час нельга сцвярджаць, што літаральна ўсе «кінуліся» ў перадвыбарную барацьбу. Цяжкасці, з якімі сутыкнулася перабудова, нарадзілі і новую з'яву—апатыю і песімізм, маўляў, усё роўна нічога не атрымаецца. Прыкладна з такой з'явай я сустрэўся, калі пабыў на сходзе ў адной са сталічных паліклінік. «Сцэнарыі» вылучэння кандыдатаў у народныя дэпутаты ў Першамайскі райсавет Мінска, гарадскі Савет і Вярхоўны Савет рэспублікі нічым асаблівым не адрозніваліся адзін ад аднаго.

Старшыня прэзідыума — галоўны ўрач В. Міраловіч, прапанаваўшы адну кандыдатуру прэтэндэнта ў кожны з Саветаў, тут жа прасіў «падводзіць рысу» і больш не вылучаць. Прапанова прысутнымі прымалася аднагалосна. Пасля двух выступіўшых у падтрымку прэтэндэнтаў слова бралі «віноўнікі падзеі» і выкладалі платформу сваёй будучай дэпутацкай дзейнасці. Тут шмат чаго абяцалі. І ні ў кога не ўзнікла пытання, ці пад сілу выканаць усё гэта дэпутату раённага ці гарадскога Савета. Прэтэндэнту ў народныя дэпутаты мясцовых Саветаў не задалі ніводнага пытання. Зрэшты, паводле выказванняў прысутных, «іх кандыдаты — станоўчыя з усіх бакоў». І нараджаецца сумненне: ці не прывядзе гэта да выбараў без выбару?

Так, з рознымі людскімі пазіцыямі даводзіцца сутыкацца, убачыць у іх і аптымістычны пачатак, і нешта засмучальнае. Але ўсё гэта праявы нашага сённяшняга жыцця, успрымаць якое трэба такім, як яно ёсць.

**Славамір АНТАНОВІЧ.**

***

Вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты завяршылася па ўсіх 310 выбарчых акругах. Амаль у кожным працоўным калектыве на адно месца абмяркоўвалася па 5—8 кандыдатур. На аршанскім заводзе «Чырвоны Кастрычнік» нават трынаццаць. У Мінску ёсць акругі, дзе на адзін мандат народнага дэпутата БССР вылучана 13—15 кандыдатаў. Але Цэнтральная выбарчая камісія канстатавала вельмі нізкую актыўнасць выбаршчыкаў на сходах па месцу жыхарства.

Асаблівасць цяперашняй выбарчай кампаніі ў Беларусі—гэта больш актыўнае выкарыстанне сваіх правоў нядаўна створанымі грамадскімі арганізацыямі, якія толькі вылучаюць кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР, а галасаваць за іх будуць 4 сакавіка ў выбарчых акругах. Маецца на ўвазе Таварыства беларускай мовы, Беларускі экалагічны саюз, Саюз кааператываў... Беларускі народны фронт як грамадская арганізацыя ў рэспубліцы не зарэгістраваны. Але вылучаны некалькі яго прадстаўнікоў у народныя дэпутаты БССР, у тым ліку і лідэры БНФ З. Пазняк і Ю. Хадыка.

Як вядома, 50 мандатаў было аддадзена Рэспубліканскаму савету ветэранаў вайны і працы, Беларускім таварыствам інвалідаў, сляпых, глухіх як найбольш сацыяльна не абароненай групе насельніцтва. Па ўсіх чатырох арганізацыях выбарчыя камісіі зарэгістравалі больш за 70 кандыдатаў. Гэта выключна ветэраны вайны і працы, людзі вядомыя і паважаныя ў рэспубліцы.



Вот какая зима выдалась в году году в Белоруссии: на земле ни одной снежинки, на многих водоемах нет льда. Да и откуда им взяться, если в январе — пору трескучих морозов, стоит плюсовая температура.
Фото А. ЦЕРЛЮКЕВИЧА.

## ПРОБЛЕМЫ НАЦИОНАЛЬНОГО ЯЗЫКА

# ОТ УПАДКА К ВОЗРОЖДЕНИЮ

*«Ни в одной союзной республике национальный язык не находится в столь бедственном положении, как у нас, в Белоруссии. Потребуются десятилетия кропотливой работы, прежде чем нам удастся нормализовать языковую ситуацию, т. е. вернуть народу его главную ценность — родной язык», — заявил в интервью журналисту Анатолию СТУКУ секретарь Минского городского комитета Компартии Белоруссии Петр КРАВЧЕНКО. Деятельность этого 39-летнего партийного работника и его коллег-единомышленников из столичного партаппарата приветствуется в широких кругах национальной интеллигенции.*

**— Существует мнение, что белорусы «добровольно» отказались от своего родного языка в пользу русского. Вы же говорите о необходимости «вернуть народу его язык». Выходит, кто-то отнял его у белорусов!**

— Этот процесс не мог быть добровольным. Никакая нация не станет по собственной инициативе хоронить свой язык, лишать себя самобытности. К нам в Минск приезжают гости из других краев и бывают просто шокированы тем, что нигде не слышно разговорной белорусской речи. А откуда ей взяться, если в нашем полуторамиллионном городе — столице суверенной республики до последнего времени не было ни одной белорусскоязычной школы, как, впрочем, не было их и во всех других больших и малых городах 10-миллионной Белоруссии. Сегодня в Минске живой белорусский язык можно услышать разве что в Союзе писателей, Академии наук, в нескольких библиотеках, высших учебных заведениях и некоторых культурных центрах.

**— Как же случилось то, что случилось!**

— На Белоруссию, к нашему великому несчастью, обрушилась одна из первых волн сталинских репрессий. Был уничтожен цвет белорусской интеллигенции. В 30-е годы были репрессированы более 100 белорусских писателей.

Вот таким тоталитарным вмешательством был прерван процесс национального возрождения. То немногое, что уцелело, скажем, белорусскоязычные школы в некоторых городах, было тихо прикрыто уже после Сталина. Наше местное руководство проявляло большое рвение. В годы Брежнева белорусский язык был окончательно вытеснен из всех сфер государственной и общественной жизни.

**— Почему же тогда, несмотря на такое катастрофическое положение, Белоруссия едва ли не самой последней из союзных республик приняла закон о придании национальному языку статуса государственного на своей территории!**

— Я думаю, что это следовало сделать раньше. Минский горком партии был в числе тех немногих организаций, которые первыми обратились в Верховный Совет БССР с таким предложением. Однако идея государственности белорусского языка не получила сразу мощной поддержки среди населения. Ведь все мы выросли в русскоязычной атмосфере. Национальный нигилизм пустил такие глубокие корни, что самим белорусам стала безразличная судьба их родного языка. Повлияли на настроения людей и события в Прибалтийских республиках, когда там возникли серьезные конфликты после принятия законов о государственности национальных языков и первоначально без достаточных гарантий интересов и прав русскоязычного населения. У многих жителей Белоруссии появились опасения: если аналогичный закон будет принят в нашей республике, то сразу начнется «тотальная белорусизация». В прессе и сейчас обсуждается эта проблема. И видно, как сильно изменилось за последнее время общественное мнение. Все больше людей осознают необходимость возвращения национального языка во все сферы деловой и общественной жизни.

**— Не противодействует ли этому административно - управленческий аппарат! Социологические опросы показывают, что этот слой общества в меньшей степени, чем какая-либо другая социальная группа, поддерживает идею государственности белорусского языка.**

— Если говорить о партийных работниках, то, как мне кажется, здесь есть полное понимание необходимости перемен. В государственном же аппарате действительно требуется еще разъяснительная работа. Ведь работников официальных учреждений закон о языке касается в первую очередь. А к этому готовы далеко [illegible]е. Значит, придется изучать национальны[illegible]зык. Многим же это кажется слишком обременительным. Но, как говорится, хочешь, не хочешь, а сомнения прочь... Закон «О языках в Белорусской ССР» уже принят. В действие его предполагается ввести с 1 сентября 1990 года. Согласно ему руководителям и сотрудникам официальных учреж[illegible]й дается три-пять лет на овладение го[illegible]рственным языком, каковым стал белорусский.

**— Что вы можете сказать о других положениях этого закона: во-первых, гарантирует ли он полноценное функционирование языка коренного населения, а во-вторых, не ущемляются ли при этом интересы национальных меньшинств!**

— Я убежден, что ничьи интересы не будут ущемлены. Белорусы с давних времен известны своей терпимостью. Когда-то на нашей земле нашли приют и русские старообрядцы, и татары, и евреи, которые были преследуемы в других краях. Здесь они получили возможность сохранять свою веру, культуру, язык. Ведь у нас в Минске вместе с белорусскими были закрыты и еврейские, и польские школы. Мы хотим возродить те добрые традиции, будем всячески содействовать стремлению представителей других наций сохранять свою самобытность. Например, год назад в Минске было организовано общество еврейской культуры. У него есть идея открыть вечернюю или воскресную школу на иврите, и мы готовы помочь им в этом. Закон о языках не только не препятствует, а наоборот, поощряет такие шаги.

Но главное в законе — это, безусловно, та широкая система мер, которые направлены на возрождение белорусского языка. На нем будет вестись обучение и воспитание в детских садах, школах, средних и высших учебных заведениях. Он станет языком делопроизводства в официальных учреждениях и организациях, в суде и других сферах. Но, учитывая реальную ситуацию в республике, переход к новой языковой практике будет осуществляться постепенно. Только некоторые статьи закона вводятся сразу после его принятия, остальные же — на протяжении трех, пяти и более лет. Что касается русского языка, то за ним закрепляется статус языка межнационального общения.

**— Видимо, очень непросто будет осуществить эту «языковую революцию»! В чем видится главная трудность!**

— Самое первое, самое трудное и самое главное—это необходимость такой же революции в сознании белорусов. Чтобы каждый из нас понял, сколь важно это для будущего его нации, и лично участвовал в этой большой работе, т. е. стремился овладеть родным языком и пользовался им в повседневной жизни. Тогда наладится и все остальное, и, может быть, даже раньше, чем это предусматривает закон.

## ИЗОБРЕТАТЕЛЬСТВО В СССР

# НЕОБХОДИМОСТЬ РЕФОРМ

В комитетах и комиссиях Верховного Совета СССР дорабатывается проект Закона СССР «Об изобретательской деятельности».

Острейшая необходимость реформы в этой сфере давно уже очевидна, ибо сложившаяся за долгие десятилетия система отношений между изобретателем и государством, бюрократизм ведомств и незаинтересованность предприятий, материальная и правовая незащищенность авторов изобретений стали существенным тормозом научно-технического прогресса.

Какова же ситуация с изобретательством в СССР и каковы главные симптомы его болезни?

В 1988 году в стране было подано 174 тысячи заявок на изобретения, по которым выдано 84 тысячи авторских свидетельств. Анализ показывает, что индивидуальные изобретатели подают не более 10 процентов заявок, остальные приходятся на долю предприятий и организаций. По предварительным данным, изобретательская активность в 1989 году ниже примерно на 20 тысяч заявок. Доля заявок на патенты, поступающих от иностранных фирм, еще более незначительна — не более 1 500 в год. Это свидетельствует о все еще не преодоленных барьерах на пути внешнеэкономического сотрудничеств[illegible]

Низка и д[illegible]СССР в мировом объеме [illegible] зарубежного патентования изобретений. По этому показателю, составляющему не более тысячи патентов в год, Советский Союз уступает большинству промышленно р[illegible]тых стран. Всего лишь [illegible]оцента советского экспорта имеют патентную защиту. Это говорит о все еще сильной инерции пренебрежения советских предприятий и организаций к патентно-лицензионной работе, пренебрежения, рожденного десятилетиями стагнации, когда богатый научный потенциал страны неумело использовался на мировом рынке.

Серьезной проблемой советского изобретательства является отсутствие экономических стимулов использования изобретений в народном хозяйстве. В 1988 году было использовано 22 тысячи изобретений — четверть от внесенных за год в Государственный реестр. Наиболее сложной оказывается судьба новинок, созданных в академическом секторе науки и вузах, — из них не более десяти процентов доходят до промышленного использования. Практически отсутствует экономический механизм тиражирования внедрения: свыше 97 процентов изобретений используется лишь на одном предприятии; еще 2,5 процента — на двух предприятиях, и лишь менее 0,5 процента получают более широкое распространение. Срок от момента получения авторского свидетельства до начала использования изобретения в народном хозяйстве составляет около девяти лет. Понятно, что за это время большинство изобретений устаревает.

В серьезном улучшении нуждается и система защиты прав изобретателей и рационализаторов в СССР. По существующему положению изобретатель получает сегодня авторское вознаграждение из расчета 2 процентов от экономического эффекта в течение 5 лет с момента начала использования изобретения, но не более 20 тысяч рублей. Причем министерства, ведомства, промышленные предприятия, по существу, выплачивают авторское вознаграждение лишь за половину внедряемых изобретений. Автора зачастую даже не ставят в известность об использовании его идеи. Нередко намеренно занижают экономический эффект от использования изобретения, чтобы снизить сумму вознаграждения. В то же время средства, выделяемые из госбюджета на развитие изобретательства и рационализации, используются лишь наполовину. Во многих случаях министерства, ведомства, предприятия не выплачивают авторам законное вознаграждение за использованное изобретение до тех пор, пока их не обяжет к тому суд.

Много нареканий вызывает у изобретателей и государственная экспертиза заявок на изобретения. Из-за низкого уровня правовой и технической квалификации экспертов многие ценные технические идеи годами и десятилетиями не признаются изобретениями, получают отказные решения экспертизы.

Так было, например, с изобретателем автомобильного масляного фильтра Григорием Бернштейном, который лишь в 1979 году смог получить авторское свидетельство по заявке на изобретение, поданной в... 1939 году. Точно так же был утрачен советский приоритет на такие важнейшие изобретения, как компьютерная томография, силикальциты, промышленное применение голографии и т. д.

Между тем, как ни странно, довольно легко получают правовую охрану малозначительные технические решения. По оценкам Государственного комитета по изобретениям и открытиям, лишь 1,5 процента ежегодно регистрируемых изобретений направлены на коренное изменение существующей техники и технологии. Не удивительно, что общий эффект от применения изобретений в народном хозяйстве СССР составил в 1988 году лишь 3,7 миллиарда рублей, тогда как в США — 400 миллиардов долларов.

Таковы основные проблемы советского изобретательства. Уже несколько лет они острейшим образом обсуждаются в печати. Понятно, что готовящийся законопроект «Об изобретательской деятельности» нужен как воздух и для повышения эффективности внешнеэкономических связей, и для ускорения научно-технического прогресса. И, конечно же, он полностью в русле тех экономических и правовых реформ, которые проводятся сейчас в СССР.

Этот закон резко изменит правовую защищенность изобретателя. Существенно изменится и такой ключевой момент, как материальная заинтересованность: максимальный предел авторского вознаграждения предлагается снять. Вознаграждение будет исчисляться из расчета 5 процентов за весь срок действия патента, который может достигать 20 лет. Таким образом, возможно увеличение авторского вознаграждения в среднем в 8 раз по сравнению с ныне действующим.

Игорь КРЫЛОВ.

## З ДАСЛЕДАВАННЯЎ ВУЧОНАГА АБ К. КАЛІНОЎСКІМ

# КАЛІ З'ЯВІЛАСЯ ІМЯ КАСТУСЬ?

Наш слынны рэвалюцыянер-дэмакрат К. Каліноўскі меў, як вядома, два імёны — **Вікенцій і Канстанцін.** Першае ён атрымаў пры хрышчэнні 6 лютага 1838 года, другое — пры паўторным хрышчэнні 4 красавіка 1838 года. Аднак карыстаўся гэтымі раўнапраўнымі імёнамі Каліноўскі далёка не ў роўнай ступені. Пры захаванні розных фармальнасцей Каліноўскі аддаваў яўную перавагу імені Вікенцій. Амаль усе афіцыйныя дакументы на працягу свайго кароткага жыцця ён падпісваў (відаць, у той час так было трэба) поўным імем і прозвішчам **Вікенцій Каліноўскі.** Усяго некалькі разоў у подпісах адначасова сустракаюцца абодва імёны — **Вікенцій Канстанцін Каліноўскі.** І ні разу ў яго подпісах не ўжыта толькі імя Канстанцін. Аб усім гэтым сведчыць студэнцкая справа К. Каліноўскага (знаходзіцца ў Ленінградскім дзяржаўным гістарычным архіве), у якой змешчаны напісаныя яго рукой прашэнні на імя рэктара Санкт-Пецярбургскага універсітэта П. Плятнёва, прашэнне на імя віленскага генерал-губернатара В. Назімава аб прыняцці на службу і следчая справа Каліноўскага, якая захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР у Вільнюсе.

Цікава адзначыць, што Вікенціем называе Каліноўскага таксама яго старэйшы брат Віктар у сваім прашэнні на імя дырэктара Імператарскай публічнай бібліятэкі М. Корфа, у якім ён просіць дазволу часова перадаць свае функцыі ў бібліятэцы малодшаму брату: «...З нагоды даручаных мне на час работ у Галоўным Маскоўскім архіве (Міністэрства замежных спраў. — **В. Ш.**) я жадаў бы перадаць мае заняткі брату майму **Вікенцію** (падкрэслена мною.— **В. Ш.**) Каліноўскаму, кандыдату С.-Пецярбургскага універсітэта».

Аднак у штодзённых зносінах з сябрамі, знаёмымі, а таксама з паплечнікамі па рэвалюцыйнай барацьбе Каліноўскі (разам з канспіратыўнымі прозвішчамі і мянушкамі — Хам, Хамовіч, Макарэвіч, Чарноцкі і інш.) карыстаўся імем Канстанцін. Пра гэта сведчаць у прыватнасці, паказанні, якія далі Віленскай асобай следчай камісіі ўдзельнікі паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі, Літве і Польшчы Аскар Авейдэ, Эразм Заблоцкі, Ільдэфонс Мілевіч і інш. У іх разам з прозвішчам Каліноўскі абавязкова фігуруе імя Канстанцін. Гэты факт пацвярджаюць таксама ўспаміны сяброў, знаёмых і паплечнікаў Каліноўскага — Фелікса Ражанскага, Іосіфа Каліноўскага (цёзка па прозвішчу і паплечнік К. Каліноўскага), Якуба Гейштара, Людвікі Радзевіч і інш., у якіх у спалучэнні з прозвішчам Каліноўскага таксама ўжываецца толькі імя Канстанцін. Гэтае імя разам з прозвішчам Каліноўскага фігуруе таксама ў розных жандарскіх данясеннях таго часу, заснаваных на інфармацыі, атрыманай з паўстанцкага асяроддзя.

**Такім чынам, ні ў адной з вядомых нам крыніц, якія адносяцца да жыццёвага шляху, рэвалюцыйнай дзейнасці і светапогляду Каліноўскага, імя Кастусь ні разу не сустракаецца.**

**Ніводнага разу не ўжываецца яно таксама ні ў польскай, ні ў рускай дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі, прысвечанай Каліноўскаму. У рускай гістарычнай і мемуарнай літаратуры, прысвечанай Каліноўскаму, як правіла, ужывалася імя Канстанцін, у польскай — Канстанты.**

З'яўленне імя Кастусь звязана з першымі крокамі беларускай гістарыяграфіі пра Каліноўскага, якая значна маладзейшая за рускую і польскую. Першы артыкул пра Каліноўскага на беларускай мове датаваны толькі 1916 годам. Апублікаваны ён быў у беларускай газеце «Гоман», што выходзіла тады ў Вільні, і называўся «Памяці справядліваго». Яе аўтарам быў вядомы беларускі паэт Канстанцін Стаповіч (1890—1926), які пісаў пад псеўданімам Казімір Сваяк. Артыкул надрукаваны, як і «Мужыцкая праўда», лацінкай. Гэты першы артыкул пра Каліноўскага на беларускай мове быў поўнасцю перадрукаваны (таксама лацінкай) у «Беларускім календары на 1919 год» пад тым жа загалоўкам, але ўжо без подпісу. У гэтым артыкуле аўтар, імкнучыся ўвасобіць у імені беларускага рэвалюцыянера нацыянальны характар, называе яго **Касьцюком** Каліноўскім.

У 1919 годзе таксама ў Вільні на старонках ілюстраванага часопіса «Беларускае жыццё» з'явіліся яшчэ два артыкулы пра Каліноўскага на беларускай мове. Аўтарам іх быў У. Талочка. Прытрымліваючыся польскай гістарыяграфіі, ён называе Каліноўскага **Канстанты.** Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, загаловак аднаго з яго артыкулаў: «Хто быў **Канстанты** (падкрэслена мной. — **В. Ш.**) Каліноўскі».

І вось у 1920 годзе зноў у Вільні выходзіць у свет «Гісторыя беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага (1893—1939). Адзін з раздзелаў гэтай своеасаблівай кнігі быў названы: «Рэвалюцыйная і проціпрэвалюцыйная літаратура 60-х гадоў. Кастусь Каліноўскі». Гэта быў першы выпадак у навуковай літаратуры, калі перад прозвішчам Каліноўскага стаяла імя **Кастусь.** Было гэта ўдалай знаходкай Гарэцкага ці толькі тр[...]м узнаўленнем захаванага ў [...]днай памяці імя беларускага рэвалюцыянера? З адказам на гэтае пытанне трэба пачакаць. Цяпер жа з упэўненасцю можна сцвярджаць, што ў беларускай літаратуры, публіцыстыцы імя **Кастусь** пачынае ўжывацца з 1920 года.

Заўважым, адн[...] што імя **Кастусь** не адразу стала шырока ўжывацца. У прыватнасці, у 1921 годзе ўжо пасля выхаду ў свет работы Гарэцкага адзін з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады Аляксандр Бурбіс (1885—1922), які пісаў пад псеўданімам Стары Піліп, у сваім артыкуле «Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху», апублікаваным у часопісе «Вестник народного комиссариата просвещения» (1921, № 1), называе Каліноўскага, як і Стаповіч, **Касьцюком.**

У рабоце Я. Карскага «Беларусы» (т. 3, ч. 3), якая выйшла ў Петраградзе на рускай мове ў 1922 годзе, Каліноўскі названы **Канстанцінам.**

У артыкуле Івана Цвікевіча «К. Каліноўскі», апублікаваным у тым жа годзе ў Коўне ў часопісе «Беларусі сцяг» (№ 4) пад псеўданімам Івана Трызны, Каліноўскі названы **Канстанцінам.**

І толькі ў 1923 годзе імя **Кастусь** паўтараецца ў загалоўку артыкула, падпісанага крыптанімам і апублікаванага ў Мінску ў газеце «Савецкая Беларусь». (Хто быў за гэтым подпісам, невядома). Дарэчы адзначыць, што гэта быў першы выпадак ужывання імя **Кастусь** у друку Савецкай Беларусі (у тагачаснай БССР). (Работа Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» выйшла ў Вільні, якая ў той час уваходзіла ў склад Польшчы).

У тым жа 1923 годзе ў Мінску была пастаўлена (у Беларускім дзяржаўным тэатры) гістарычная драма Е. Міровіча «Кастусь Каліноўскі», якая садзейнічала шырокаму ўжыванню імя **Кастусь** у публіцыстыцы, мастацкай і гістарычнай літаратуры.

Такім чынам, на пачатковым этапе беларуская гістарыяграфія ўжыла чатыры варыянты беларускага імя Каліноўскага: Касьцюк, Канстанты, Канстанцін і Кастусь. Апошняе аказалася самым удалым і стала найбольш ужывальным.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

## МОЛАДЗЬ АБЖЫВАЕ ПАЛАЦ



Палац моладзі вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш» пабудаваны ў цэнтры жылога масіву камбайнабудаўнікоў Маладзёжны. Хаця афіцыйнае адкрыццё комплексу, які складаецца з трох злучаных паміж сабой памяшканняў — клубнага, спартыўнага і танцавальнага, яшчэ наперадзе, гамяльчане пачалі ўжо абжываць новы Палац. Працуе бібліятэка, кіна-, відэазала, праводзяцца першыя вечары адпачынку, дыскатэкі, арганізоўваюцца студыі, тэатр, гурткі мастацкай самадзейнасці.

НА ЗДЫМКАХ: гомельскі Палац моладзі; новую сцэну асвойвае вакальны ансамбль «Кансананс».

Фота І. ЮДАША.



## КІТАЙСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ — ГОСЦІ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

# ШЫРОКАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ

Гасцямі Саюза пісьменнікаў Беларусі былі кітайскія літаратары Е Шуйфу і Лі Юэжань.

Е Шуйфу — прафесар Інстытута сусветнай літаратуры, які выконвае абавязкі старшыні Усекітайскага таварыства перакладчыкаў.

Лі Юэжань — прафесар, намеснік старшыні Усекітайскага таварыства перакладчыкаў, старшыня Пекінскага таварыства перакладчыкаў, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі выпускнікоў савецкіх ВНУ. Цікавая дэталь: у свой час Лі працаваў асабістым перакладчыкам Мао Цзэдуна, удзельнічаў у яго перагаворах з кіраўнікамі Савецкай дзяржавы. Цяпер ён аб сваёй працы напісаў кнігу ўспамінаў, якая мае выйсці ў Кітаі.

Абодва госці — члены Цэнтральнага праўлення таварыства кітайска-савецкай дружбы. Яны былі прыняты старшынёй Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі А. Ваніцкім. Госці мелі не толькі творчыя мэты, а і пэўныя даручэнні ад кітайскіх фірм, якія знаходзяцца ў так званай свабоднай эканамічнай зоне. Таму яны сустрэліся з першым намеснікам міністра гандлю БССР Т. Крываненя і старшынёй Гандлёвай палаты БССР У. Лесуном.

Кітайскія літаратары мелі таксама гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі — з Максімам Танкам, Васілём Быкавым, Нілам Гілевічам, Анатолем Вярцінскім. Адбылася сустрэча ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Пра клопаты, якімі жывуць літаратуразнаўцы, пра планы, звязаныя з напісаннем новай гісторыі беларускай літаратуры, гаварылі Віктар Каваленка, Павел Дзюбайла, Адам Мальдзіс, Міхась Мушынскі, Васіль Жураўлёў, Уладзімір Гніламёдаў. Госці, з свайго боку, зазначылі, што з сучаснай савецкай літаратуры ў Кітаі ведаюць пераважна творы рускіх, беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, у прыватнасці, кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Мележа, Петруся Броўкі, Янкі Маўра, Аркадзя Куляшова, Кандрата Крапівы, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Святланы Алексіевіч... Пакідаючы Мінск, кіраўнік дэлегацыі Е Шуйфу сказаў:

— Гэта паездка дапамагла нам шырэй глянуць на беларускую літаратуру, на яе багатыя традыцыі і сучасныя літаратурныя працэс. А мне, як галоўнаму рэдактару створанай у нашым інстытуце кнігі па гісторыі савецкай літаратуры, дзе ёсць раздзел і пра вашу літаратуру, — многае ўдакладніць, паглыбіць, выправіць асобныя ацэнкі.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**

## БАРЦЫ САБРАЛІСЯ Ў КАЛГАСЕ





**Упершыню ў нашай рэспубліцы праведзена матчавая сустрэча зборных СССР і ЗША па вольнай барацьбе. І адбылася яна ў калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага на Магілёўшчыне.**

**Хлебам-соллю сустракалі калгаснікі спартсменаў дзвюх краін. Стварылі добрыя ўмовы для спаборніцтваў, у якіх прынялі ўдзел і беларускія спартсмены. Перамогу сярод іх атрымалі Ігар Смаль, Араваг Сабееў, Ігар Козыр, Вугар Аруджаў і Аляксандр Саўко. Пакідаючы калгас, савецкія і амерыканскія барцы падкрэслілі, што кранугы гасціннасцю сельскіх працаўнікоў.**

**НА ЗДЫМКУ: хлеб-соль — гасцям; момант барацьбы.**

**Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.**

---

**ВЯРШЫНІ БАРЫСА ГЕЛЬФАНДА**

# ТАКІ ПАМЯТНЫ ГОД

Леташні год і сапраўды памятны для шахматыста з Мінска Барыса Гельфанда. Пачалося, можна лічыць, з турніру ў Венгрыі, на якім ён выканаў норму гросмайстра. Поспех нібы даў крылы. І вось ужо на камандных маладзёжных гульнях СССР Барыс дамагаецца лепшага выніку на сваёй дошцы.

Але спецыялісты не спяшаліся з пахвалой. Нават спартыўныя газеты адвялі Барысу, як кажуць, не больш двух-трох радкоў. У чым справа?

Гэтае пытанне я адрасаваў вядомаму майстру, які прыехаў на турнір у Мінск. Той адказаў: «Ведаем мы вашых беларускіх «забіякаў». Ліха пачынаюць, ды хутка згараюць. Трэба, каб «зоркі» свяцілі і ярка, і доўга. Тады і ўвагай іх не абыдуць».

У гэтых словах была праўда. Маем не адзін прыклад, калі беларускія шахматысты на першым часе лічыліся перспектыўнымі, але хутка скочваліся ў разрад «сераднячкоў». Возьмем таго ж гросмайстра Віктара Купрэйчыка. Пачынаў ён сваю спартыўную кар'еру бліскуча. Дамагаўся перамог і дома, і за мяжой. Заваёўваў галоўныя прызы на вядомым Гасцінгскім турніры, на турніры ў Дэлі. Але вось ужо на працягу многіх гадоў штосьці не радуе нас сваімі поспехамі. Калісьці заслужыў тое імя — «забіяка», бо мог абыграць самага славутага шахматыста... На жаль (і гэта думка многіх), таленавіты спартсмен спыніўся на былых дасягненнях, задаволіўся імі.

— Дасягнуць гросмайстарскага рубяжа было для мяне вельмі ганарова. Але для самасцвярджэння патрабавалася шмат працаваць. І, заканамерна, браць новыя вышыні, — скажа Барыс Гельфанд, выступаючы перад аматарамі ў мінскім Палацы шахмат і ша... — Галоўнай з іх я і мой ...нер А. Капенгут лічылі чэмпіянат СССР.

Дэбют у такім прадстаўнічым спаборніцтве з'явіўся сур'ёзным выпрабаваннем для маладога спартсмена. Не ўсё, вядома, атрымалася на гэтых спабор...вах.

— Не вел... задаволены гульнёй белымі фігурамі. Пры дамашнім аналізе вызначыў, што мог бы атрымаць у некалькіх партыях і больш перспектыўныя пазіцыі, — успамінаў беларускі гросмайстар. — Затое задаволіў сам вынік: заняў трэцяе месца і заваяваў пуцёўку на адборачны турнір II Кубка свету ў Іспанію.

Да гэтага былі яшчэ два адказныя спаборніцтвы. Бронзавы медаль чэмпіянату краіны, здавалася б, гарантаваў месца ў зборнай краіны на першынство свету. Але трэнерскі савет вырашыў інакш. Магчыма Барысу патрэбен быў адпачынак: вельмі многа спаборніцтваў было летась у маладога шахматыста. З другога боку, не выключаем, што нехта палічыў занадта высокім той чэмпіянат для Гельфанда: ёсць больш вопытныя спартсмены. Рашэнне трэнерскага савета засталося для нас тайнай. І, можа, ён меў рацыю. Бо каманднае першынство свету зборная СССР правяла бліскуча: намнога апярэдзіла ўсіх сапернікаў і заваявала залатыя медалі.

— Затое я трапіў на каманды чэмпіянат Еўропы. Набраў чатыры ачкі з шасці магчымых, — расказваў аматарам шахмат беларускай сталіцы Барыс Гельфанд. — Было прыемна атрымаць залаты медаль за перамогу ў складзе зборнай СССР.

Заключным адказным стартам для маладога беларускага спартсмена стаў адборачны турнір II Кубка свету ў Пальма-дэ-Мальёрка. Сто восемдзесят шэсць удзельнікаў (а тут гуляла шмат мацнейшых гросмайстраў з розных краін) вялі барацьбу, каб прабіцца ў фінал.

Ужо з першых тураў пайшла гульня ў Барыса. На старце ён выйграў пяць партый запар і з першага да апошняга тура нікому не ўступіў лідэрства. Толькі тры нічы зрабіў на гэтых спаборніцтвах Гельфанд, ды і тыя з савецкімі гросмайстрамі.

Вось такім шчаслівым аказаўся леташні год для беларускага шахматыста. Якія ж планы на будучыню?

— Прыму ўдзел у некалькіх спаборніцтвах. Галоўнымі з іх, вядома, будуць занальны турнір у Львове і фінальны адборачны II Кубка свету.

Так мяркуе Барыс Гельфанд.

Нам застаецца пажадаць поспехаў таленавітаму спартсмену.

**Яўген ІВАНОЎ.**

---

**ЧЭМПІЯНАТЫ, ТУРНІРЫ, СУСТРЭЧЫ**

ГАНДБОЛ. Студэнткі мінскай каманды БПІ сталі пераможцамі міжнароднага турніру ў Варшаве. Яны абыгралі чатыры польскія і адзін югаслаўскі клубы.

Лепшымі ігракамі гэтых спаборніцтваў названы Алена Альха і Наталля Скарабагатая.

ТЭНІС. Другую перамогу запар атрымала мінчанка Наталля Зверава. Цяпер яна вызначылася на адкрытым чэмпіянаце штата Новы Паўднёвы Уэльс (Аўстралія), дзе ў фінале ўзяла верх над спартсменкай з Аўстрыі Б. Паулюс.

ВОДНАЕ ПОЛА. Тры перамогі і адно паражэнне — такі вынік выступлення мінскай РШВСМ на розыгрышы Кубка СССР, што прайшоў у беларускай сталіцы. Наша каманда ўвайшла ў васьмёрку мацнейшых клубаў краіны, якія разыграюць ганаровы трафей.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Усесаюзны традыцыйны турнір па скачках з шастом памяці вядомага беларускага спартсмена Уладзіміра Булатава прынёс поспех Радзівону Гатауліну з Ташкента: 5 метраў 70 сантыметраў. Мінчанін Генадзь Сухараў стаў трэцім прызёрам гэтых спаборніцтваў.

---

**ІНТЭРВ'Ю З ПРАСЛАЎЛЕНАЙ ГІМНАСТКАЙ**

# ПАСЛЯ ПАЕЗДКІ Ў ЗША

*Алімпійская чэмпіёнка Вольга Корбут нядаўна вярнулася з паездкі па гарадах Злучаных Штатаў Амерыкі. Газета «Советский спорт» узяла па тэлефоне кароткае інтэрв'ю ў славутай беларускай гімнасткі. Вось змест гэтай гутаркі:*

**— Якая была мэта паездкі!**

— Паказальнае турнэ. Выступала з вольнымі практыкаваннямі, дарэчы, разам з асноўнай зборнай Саюза. Акрабатыка маіх камбінацый, вядома, была вельмі простай, але ж я і хацела паказаць прыгажосць гімнастыкі, а не тую надзвычайную складанасць, да якой мы прывыклі за апошнія гады.

**— Вы задаволены!**

— Так. Але галоўным сваім поспехам лічу не ўдачу на памосце, а тое, што пасля маіх выступленняў у Індыянапалісе мне ўдалося дамовіцца, што дванаццаці дзецям, якія пацярпелі пасля катастрофы ў Чарнобылі, амерыканцы будуць рабіць аперацыі па перасадцы касцявога мозгу, прычым бясплатна. А між іншым, кожная аперацыя каштуе ад 60 да 100 тысяч долараў. Вось гэтым пагадненнем я ганаруся асабліва.

**— І зусім заслужана. А што ў перспектыве!**

— Хачу паспрабаваць арганізаваць спаборніцтвы на свае прызы па спартыўнай гімнастыцы. Карацей, займаюся і буду займацца тым, аб чым так доўга марыла, — прапагандай майго віду спорту.

---

## АФІЦЫЙНЫ КАЛЕЙДАСКОП

● Лепшы футбаліст Беларусі леташняга года мінскі дынамавец Сяргей Гоцманаў запрошаны выступаць за англійскі клуб «Брайтан».

Завершаны перагаворы паміж гэтым клубам і Цэнтральным саветам ФСТ «Дынама». Прадугледжваецца наладжванне шырокіх кантактаў паміж беларускімі і англійскімі футбалістамі. У іх праграме забеспячэнне дынамаўцаў экіпіроўкай, правядзенне таварыскіх сустрэч на стадыёнах Англіі і СССР.

● Летам у Італіі пройдзе чарговы чэмпіянат свету па футболу. Кандыдатамі на абслугоўванне яго названы савецкія суддзі В. Жук (Мінск), А. Спірын і В. Бутэнка (абодва — Масква).

● «Спорт для ўсіх» — пад такім дэвізам праводзяцца завочныя фізкультурна-аздараўленчыя і спартыўныя спаборніцтвы жыхароў Савецкага Саюза і Канады. У гэта мерапрыемства ўключыліся па адзінаццаць гарадоў абедзвюх краін. Партнёрам Мінска стаў канадскі горад Су-Сент-Мары.

У праграме спаборніцтваў ранішняя гімнастыка, бег ці хадзьба, удзел у разнастайных гульнях, конкурсах людзей рознага ўзросту. Кожнаму ўдзельніку будзе залічвацца ўмоўна «кіламетр здароўя». А пераможцам стане той горад, які набярэ найбольшую колькасць такіх кіламетраў.

● Заходнегерманская федэрацыя гандбола выступіла з ініцыятывай стварыць на сто дзён у рэкламных мэтах юніёрскую зборную свету з найбольш перспектыўных ігракоў розных краін, якая прыме ўдзел у шэрагу камерцыйных турніраў. Мінскі клуб СКА дэлегіруе ў гэту каманду маладога спартсмена Генадзя Халепа.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 141